Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 49 Нядзеля, 7-га Сьнежня 1924 г. Год 1.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр.
За границу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак на 1 стар. — 15 гр.
за радок пэтыту: у тэксьце — 10 гр.
на апош. стар. — 5 гр.



## Рэакцыйная сьлепата.

Вялізнаю перашкодаю на шляху да аздараўленьня нацыянальных адносін у нашым краі служыць тое, што ня толькі выразна-рэакцыйныя польскія нацыяналістычныя групіроўкі, але навет і глыбока-дэмакратычныя слаі польскага грамадзянства незнаёмы з беларускім нацыянальным рухам у тэй постаці, ў якой рух гэты *фактычна* выглядае.

Няраз прыходзілася заўважыць, што на шпальтах польскае прэсы ўсялякіх палітычных кірункаў далёка няточна перадаваліся тыя ці іншыя факты з беларускага руху.

Але-ж мы схіляемся да думкі, што нязнаньне беларускага нацыянальнага руху польскаю дэмакратыяй і рэакцыяй зьяўлялася заўсёды вельмі магчымым і шчырым. Хочацца думаць, што дасюль сьвядома-злосных выдумляньня баек пра беларускі рух у кругох польскага грамадзянства ня было.

Выдумляць гэтыя байкі пачала ад нядаўняга часу польская газэта „Echo Warszawskie“, якая стараецца іх расьпісаць далёка не па-мастацку.

Народная прыказка характарызуе падобныя зьявішчы кароткімі словамі: „Чуў звон, але ня ведае, дзе ён“.

Гэту простую народную мудрасьць трэба прыстасаваць і на гэты раз, калі мы хочам разглядзець яшчэ адзін выпадак выступленьня нейкага п. St. T. у газэце „Echo Warszawskie“ з артыкулам: „Ruch białoruski w Polsce“.

З пачатку і да канца аўтор выказвае абсолютную незнаёмасьць з настроямі тых шэрых беларускіх масаў, да якіх ён у канцы артыкулу раіць падыйсьці беспасрэдна і „шляхам гаспадарчае і культурнае акцыі зрабіць моцныя стараньні аб паднясьці дабрабыту гэтых масаў, каб выцягнуць іх з дасюлешняга стану цемры“.

Што датычыць пачуцьцёў і настрояў беларускага сялянства, дык аўтор, дасюль яшчэ, апэруе старымі даўно-перажытымі катэгорыямі беларускай нацыянальнай псыхікі. Можна мець самыя адсталыя, рэакцыйныя пераканаьні, можна падходзячы да тэй ці іншай справы, разглядаць яе сьлепа і аднабока з пункту гледжаньня сваіх вузка-партыйных інтарэсаў, але трудна да чаго-нібудзь дайсьці, апэруючы тымі пачуцьцямі беларускага народу, якія ў масавай большасьці сягоньня ўжо зьяўляюцца пераржыткам і з кожным днём адходзяць у нашу горшую мінуўшчыну.

Трэба саўсім ня знаць нашага руху, ня ведаць нічога аб нашым народным быце, трэба, нарэшце, быць абсолютна сьляпым рэакцыянэрам, каб у нашыя дні цьвярдзіць, быццам *у беларускай вёсцы ўсе жыхары, апрача ксяндза і касьцельнае абслугі, саўсім ня лічаць сябе беларусамі, а проста „тутэйшымі“, ня могучы адрозьніць сваё нацыянальнасьці*.

А тымчасам, ня вельмі важнай сілы публіцысты з „Echa Warsz.“, здольны наагул мяшаць, як кажуць, „гарох з капустаю“, пераТасоўваё факты бяз ніякае сыстэмы, даводзяць нібыто большасьць навет ксяндзоў, якія належаць да беларускага руху, карыстаецца ў штодзеннам жыцьці... расейскаю моваю.

Далей ісьці няма куды!

Але-ж вядома, што сьляпыя дарогі ня бачаць і могуць пёрціся, куды ногі нясуць. Гэтак і робіць журналісты з вышэйспомненае газэты, даходзячы да саўсім ужо дзікага вываду, нібыто: „гэтак званы беларускі рух фінансуецца Беларускаю Радаваю Рэспублікаю...“

Будучы ворагам беларускага руху наагул, можна не разьбірацца ў спосабах барацьбы з гэтым рухам, ствараючы аб ім проста з пальца высмактаную хлусьню, але-ж голыя словы, не падпёртыя абсолютна ніякімі фактамі, ніколі вагі ня маюць і заўсёды адскакваюць ад праўды, як гарох ад сьцяны, хоцьбы сабе гарохам гэтым стралялі навет і з гарматы.

Можа ад сваіх болей цьвярозых варшаўскіх колегаў з лявіцовага польскага лагеру, болей знаёмага з беларускім рухам, як у мінулым, так навет і цяпер, паны з „Echo Warsz.“ патрапілі-б даведацца аб тым, што рух наш існаваў куды раней, чымся аб нейкай „Савецкай Беларускай Рэспубліцы“ хто-нібудзь і дзе-нібудзь мог прысьніць.

Падробная палеміка з бязглуздымі вывадамі і аргумэнтамі сьляпога польскага рэакцыянэра зьяўляецца для нас у далейшым непатрэбнаю і саўсім лішняю, дзеля таго, што мы нядольны капацца ў брудным ворасе, груба назьбіраных, словаў, як нядольны таксама сьледам за асобамі, падобнымі да вышэйназванага аўтора, залезьці каму-нібудзь у душу проста з нячышчанымі ботамі бяз ніякага пардону.

Для нас ясна толькі адно, што гэткія „знаўцы“ беларускага нацыянальнага руху, як тыя, хто піша дзіцячыя байкі аб ім у газэце „Echo Warszawskie“, ніколі да выразаньня беларускага пытаньня ў Польшчы прызваны ня будуць, дзеля тае простае прычыны, што пытаньнем гэтым яны належна ня цікавяцца і іхняй застарэлай рэакцыйнай сьлепаце ніякія акуляры ня могуць памагчы разглядзець тыя рэчы, да якіх яны часамі падходзяць.

**Часовая Беларуская Рада месьціцца на Нямецкай вуліцы у готэлі „Palace“ пакой 154. Прыём штодня ад 12—2 гадз.**

## Палітычны агляд.

Няўдаўшуюся спробу камуністычнага перавароту ў Эстоніі ўсе лічаць, як рэзультат пазбаўленьня Троцкага ўлады і перавагі ў С. С. Р. Р. крайніх левых элемэнтаў камуністычнай партыі, заўсёды імкнуўшайся да больш рашучай дзеяльнасьці. З другога боку, праява больш рашучай дзеяльнасьці бальшавікоў на Балканах і ў суседніх заходніх дзяржавах зьяўляецца простым рэзультатам іхняй няўдачы ў Англіі і Нямеччыне і палітычнай удачы ўва Францыі. Да сёлетняй восені Балканы і Прыбалтыцкія дзяржавы лічыліся другарадным тэатрам дзеяльнасьці III Інтэрнацыяналу, у той час, як галоўнымі лічыліся Англія, Нямеччына і Блізкі, Сярэдні і Далёкі Усход. Туды лілася з Масквы галоўная маса золата і скіроўваліся галоўныя бальшавіцкія сілы. І толькі тады, як аканчальна трэснулі надзеі на ўдачу прапаганды ў Англіі пасьля правалу ўраду Макдональда і на пераварот у Нямеччыне, пасьля таго як апошняя дагаварылася з Францыяй,— бальшавікі з усей сілай скіраваліся ў бок найменшага спраціву і зрабілі сваю апошнюю стаўку на Балканы і на суседнія заходнія дзяржавы.

1 сьнежня а 5 г. 30 м. раніцай у Рэвалі паасобныя азброеныя групы па 5—10 душ аднačасна напалі на вакзалы, почту і тэлеграф, тры паліцэйскія камісарыяты, ваенную школу, штаб 10-га пяхотнага палку і іншыя дзяржаўныя ўстановы. Усе гэтыя ўдарныя групы былі азброены стрэльбамі, рэвальвэрамі сыстэмы „парабэльлюм“ і ручнымі бомбамі. Усе каманды выклікаліся парасейску. Зараз-жа пасьля гэтага пачалася ліквідацыя паўстаньня.

Войска і паліцыя пачалі ачышчаць захваченыя камуністамі месцы. У некаторых мясцох, як напр., на вакзале, энэргічны бой трываў да 8 гадз. ўвечары. Да зьмерку ўдалося завясьці ў горадзе поўны парадак. Частку паўстанцаў арыштавалі, а іншыя ўцяклі і схаваліся ў падмястовым лесе, які зараз-жа быў акружаны войскам ды паліцыяй і камуністыя былі злоўлены на другі дзень. У першы дзень у часе нападу камуністых і далейшага з імі бою было забіта: 5 афіцэраў, 7 вучняў ваеннай школы, 7 жаўнераў і 5 цывільных асобаў. Цяжка ранены: 5 афіцэраў, 7 юнкераў і 3 жаўнеры. Лік раненых цывільных асобаў даходзіць да 40 душ. Сярод забітых ёсьць міністар шляхоў, на каторага камуністыя напалі раніцай, як ён ехаў на вакзал. У першы дзень арыштована 60 камуністых, у другі дзень — 100. Ідуць далейшыя арышты. У паўстаньні прыймала учасьце каля 300 чалавек.

Зараз пасьля ліквідаваньня паўстаньня эстонскі ўрад абвясьціў ува ўсім краі ваеннае палажэньне, а галоўнаму камандзеру, гэнэралу Ляйдэнэру, даў над'звычайныя поўнамоцтвы. Склікаены на над'звычайнае паседжаньне парлямэнт, пачуўшы даклад галоўнага камандзера аднагалосна зацьвярдзіў дзяржаўныя загады і прызнаў частковую мобілізацыю. Усіх учасьнікаў паўстаньня аддалі пад ваенны суд. 20 чалавек з гэтага ліку на другі дзень былі засуджаны на сьмерць і расстрэлены.

Ува ўсім краі парадак дагэтуль не пачсаваўся. Па вуліцах Рэвалю хо-

дзяць ваенныя і паліцэйскія патрулі. Паводле апошніх, яшчэ не правераных, чуткаў з Рыгі, ўся эстонская армія выйшла на савецкую граніцу.

З дакладу галоўнага камандзера відаць, што рэвальскае паўстаньне было падрыхтована і кіравана з Масквы. Ударныя групы паасобку прыбылі з С. С. Р. Р. з фальшывыі дакумантамі. Аружжа прывезена з ССРР. Блізка эстонскай граніцы стаялі прыгатоўленыя савецкія вайскавыя адзелы, сфармованыя, галоўным чынам, з эстонскіх камуністых, якія, калі-б рэвальскі пераварот удаўся, павінны былі перайсьці эстонскую граніцу і ісьці на падмогу. У Фінскім заліве перад Рэвалем курсаваў савецкі ваенны флёт, які меў, відаць, па мэце такую-ж самую задачу. Але, даведаўшыся аб няўдачы, якая спаткала рэвальскіх камуністых, адплыў назад у Кранштадт.

Няўдаўшаеся рэвальскае паўстаньне яшчэ раз даказвае, як працуюць бальшавікі над выклікаеньнем рэвалюцыі. Гэтая актыўнасьць дзеяньня III Інтэрнацыяналу ёсьць у сувязі з пазбаўленьнем улады Троцкага і пераходам усяе ўлады ў рукі гэт. наз. „тройкі", ў якой Зіноўеў мае галоўную ролю. Гэткім чынам, Зіноўеў ёсьць ня толькі старшыня III Інтэрнацыяналу, але й галоўны дыктатар С. С. Р. Р. У сувязі з аканчальнай перамогай левага ваяўнічага боку камуністычнае партыі, устрымліваемага раней правым, больш умяркованым з Троцкім на чале, які імкнуўся да згоды з дэмакратычным элемэнтам краю, трэба спадзявацца больш рашучай дзеяльнасьці з боку III Інтэрнацыяналу, каторы можа браць патрэбныя грошы з агульнага скарбу дзяржавы і карыстацца падтрыманьнем чырвонай арміі. На шлях рашучай дзеяльнасьці прэць бальшавікоў таксама й бязвыхаднае экапамічнае палажэньне С. С. Р. Р., дзеля таго, што голы разбою не баіцца. Дзеля гэтага палажэньне ў суседніх з С. С. Р. Р. дзяржавах трэба лічыць надта паважным.

*N.*

---

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

### У Польшчы.

У Варшаве арыштованы д-р філёзофіі Язэп Крук, 40 гадоў, распараджэньнем лодзінскае пракуратуры абвінавачаны ў распаўсюджваньні камуністычнае літэратуры і антыдзяржаўнай дзейнасьці.

Віцэ-прэм'ер п. Тугут прыняў новага прэзэса соймавага клюбу „Wyzwolenie" сэнатара Возьніцкага.

У міністэрстве ўнутраных справаў падходзіць да канца апрацоўка законапроекту аб прэсе. Законапроект у найбліжэйшыя дні будзе пераслапы ў Раду Міністраў.

Палітычная паліцыя ў Лодзі зрабіла рад арыштаў сярод лодзінскае арганізацыі незалежных соцыялістых. Паміж іншымі, арыштованы відны сябар гэтае арганізацыі д-р Мержынскі. У зьвязку з гэтымі арыштамі конфіскованы тыднёвік „Świt".

У канцы спрэчак у соймавай адміністрацыйнай камісіі пасол Прагэр (P. P. S.) зрабіў гэткую прапазыцыю: Сойм прызывае Урад апрацаваць проект статуту аб тэрыторыяльнай аўтаноміі украінскіх і беларускіх земляў, моц якога распаўсюджвалася-б на ўсю тэрыторыю, заселеную украінцамі і беларусамі. У гэтым статуце павінна прадбачвацца таксама і стварэньне Краёвага Сайму і краёвага кіраўніцтва, адпавядальнага перад гэты Соймам. Спрэчкі і галасаваньне па гэтай прапазыцыі адбудуцца на чарэдным паседжаньні камісіі.

ПАТ. тэлеграфуе з Варшавы за 5.XII: „У Сойме пасол Тарашкевіч, мотывуючы сьпешнасьць прапазыцыі беларускага пасольскага клюбу па справе нападу на пасла Ярэміча, пачаў прамову словамі: „Напады, арганізованыя бандамі польскіх асаднікаў"... гэта выклікала неапісальную буру сярод правіцы і маршалку прышлося перарваць паседжаньне, якое адложана да серады".

У урадовых кругох выстаўляецца кандыдатура п. Левэнгэрца, сябра камісіі экспэртаў па крэсовых справах, на пасаду віцэ-міністра ўнутраных справаў.

Пасьля зацьвярджэньня законапроекту аб вышэйшых ваенных уладах, урад зьвернецца з прапазыцыяй да маршалка Пілсудскага заняць пасаду гэнэральнага інспэктара арміі.

„Kur. Warsz." паведамляе, што віцэ-прэм'ер Тугут проектуе ізноў адвавіць камісію спэцыялістых па крэсовых справах. Лік сяброў будзе павялічаны, а камісіі будзе прыданы характар заўсёднае інстытуцыі.

На парадку дня паседжаньня Рады Міністраў 5 сьнежня стаяла пытаньне аб спэцыяльнай компэтэнцыі ўсходніх ваяводаў у сувязі з пачатаю урадам працаю па аздараўленьню палажэньня на крэсах.

### За граніцай.

Рыскі корэспондэнт „Kur. Poran." паведамляе, што савецкаму прадстаўніку ў **Рэвалі** перадана нота, ў якой **эстонскі** урад протэстуе проці заўсёдных дэмонстрацыяў, якія робяцца ў С. С. Р. Р. перад будынкамі эстонскага прадстаўніцтва з прычыны працэсу 149 камуністых у Рэвалі. Эстонскі ўрад заяўляе, што судзіліся эстонскія грамадзяне, сябры III інтэрнацыяналу, з якім радавы ўрад, як ён неаднакроць офіцыяльна заяўляў, ня мае нічога супольнага. Эстонскі ўрад не разумее прычыны дэмонстрацыяў і просіць выдаць распараджэньне аб забароне іх у далейшым.

Вядомы павадыр нямецкіх соцыяль-дэмакратаў Карусь Каўцкі запрошаны прэзыдэнтам **Чэхаславацкай** Рэспублікі Масарыкам у Прагу. Каўцкі ў пісьме да выканаўчага камітэту Чэхаславацкае соцыяль-дэмакратычнае партыі паведаміў, што ў умоўлены час ён прыедзе ў Прагу.

Прэзыдэнт **Фінляндзкае** Рэспублікі ўпаважпіў фінскага пасла ў Парыжы Энкэля, дэлегата Фінляндыі ў Лізе Народаў, падпісаць **жэнэўскі** пратакол аб вырашаньні міжнародных спрэчак мірам.

У **Латвіі** прэзыдэнт Рэспублікі прыняў адстаўку ўраду, адначасна загадаўшы міністрам далейшае спаўняньне іхніх абавязкаў аж да часу ўтварэньня новага кабінэту.

Паводлуг вестак з **Рыгі**, ўся **эстонская** армія, якая налічвае 50.000 чалавек выступіла пасьпешным маршам на граніцу з С. С. Р. Р.

З **Рэвалю** паведамляюць, што, паводлуг офіцыяльнага абвешчаньня, 7 рэвалюцыянэраў, засуджаных на сьмерць, расстрэляны.

Фракцыя рабочай партыі ў **ангельскім** парлямэнце выбрала Макдональда сваім прэзэсам; некалькі сяброў лібэральпае партыі выказаліся проці Лёйд-Джорджа, як лідэра партыі і стварылі рэдыкальную групу.

З прычыны хваробы швэдзкага прэм'ер-міністра Брантынга, на найбліжэйшай сэсіі Рады Лігі Народаў **Швэцыю** будзе прадстаўляць міністар заграпічных справаў.

Паводлуг вестак з **Кітайшчыны**, тамака зьяўляецца магчымаю новая хатняя вайна, з прычыны конкурэнцыі паміж гэн. Чан-Со-Лінам і гэн. Фэнгам.

Савецкае пасольства ў **Бэрліне** адтрымала весткі з **Масквы**, што ўрад С. С. Р. Р. запрапанаваў Троцкаму пасаду пасла ў **Турцыі**.

З **Лёндану** паведамляюць, што ў Суэц прыехалі з **Судану** 1.000 эгіпэцкіх жаўнераў, выдаленых ангельскімі ўладамі.

У **Парыжы** арыштованы францускі бальшавік Садуль, які быў капітанам францускае службы і перайшоў на службу да бальшавікоў пасьля кастрычніцкае рэвалюцыі, будучы сябром францускае місіі пры галоўнай кватэры расейскае арміі падчас сусьветнае вайны. Садуль пасаджаны ў ваенны вастрог з рэжымам для тых, хто ўжо засуджаны. Камуністыя ў францускім парлямэнце зрабілі запрос ураду з прычыны арышту Садуля.

З **Рэвалю** паведамляюць, што савецкае пасольства зьвярнулася ў **эстонскае** міністэрства заграпічных справаў з запросам, ці невядома яму, дзе знаходзяцца некаторыя служачыя і кур'еры пасольства.

Усе прадстаўнікі чужаземных дзяржаваў выказалі ўраду шкадаваньне з прычыны сумных падзеяў 1-га сьнежня. Не зрабіла гэтага толькі савецкае пасольства.

З **Рыгі** тэлеграфуюць, што згодна з паведамленьнямі з **Петраграду**, савецкія ўлады пачалі арыштоўваць **эстонскіх** грамадзян, якія жывуць у С.С.Р.Р., з тым, каб пасьля абмяняць іх на 149 камуністых, засуджаных у Рэвалі.

---

## Рэзультаты конфэрэнцыі крэсовых ваяводаў з цэнтральнымі ўладамі.

Тутэйшая польская газэта „Dziennik Wileński" перадае гэткія інфармацыі аб рэзультатах конфэрэнцыі ўсходніх ваяводаў з цэнтральнымі ўладамі: Міністэрства Ўнутраных Справаў, згодна з пастановамі конфэрэнцыі 4-х ваяводаў усходніх земляў, адбытай у Варшаве з віцэ-прэм'ерам Тугутам і міністрам унутраных справаў п. Ратайскім, аддало ў распараджэньне ваяводаў аддзелы корпусу пагранічнай варты. Гэткім чынам, уся справа бясьпечнасьці на абшары, павераным ваяводзе, будзе знаходзіцца ў руках данага ваяводы.

У рэзультаце робленых усходнімі ваяводамі стараньняў, Міністэрства Ўнутраных Справаў, з мэтаю даць магчымасьць дзейнасьці павятовым соймікам, якія больш, як 40% свайго бюджэту аддавалі на ўтрыманьне паліцыі, згадзілася разлажыць расходы на паліцыю, служачую ў усходніх ваяводзтвах, на ўсю дзяржаву і удзел крэсовых соймікаў у ўтрыманьні паліцыі будзе з Новага Году роўназначны з паветамі іншых частак дзяржавы.

---

К. СТЭПОВІЧ.

# Янка Канцавы.

### Вясковая драма ў 5 дзеях.

*(Глядзі № 48 „Грам. Голасу").*

**Маці.** Лёгка згадаць, дзеткі. Сёньня-ж субота. Пэўна, на вечарыну звацьбудзе.

**Франук.** Цётка ўгадала. Будзе-будзе, і яшчэ якая! Прышоў намовіць Янку з Карусяй.

**Янка.** Ну, я адразу даю згоду... Толькі, — што я там буду рабіць?

**Франук.** Знайдзем, знайдзем што рабіць! Не раздумвайся ...

**Маці** (*сумна*). Лепей ты, Янaчка, ня йдзі, бо хлапцы на цябе даўно ўжо коса глядзяць і нездаволены — як я чула — што ты някі іншы, нялюдзкі: Бог ведае, да чаго намаўляеш і дразьніш іх толькі.

**Янка.** Не, мама. Пазволь мне пайсьці. Чую сёньня асаблівую ахвоту.

**Маці.** Ну, добра. Але Каруся астанецца, бо аднэй мне з Язэпкам вельмі нудна.

**Каруся.** Я, мамачка, і ня думаю ісьці. Нашы гульні цяпер рэдка калі абходзяцца без гарэлкі і крыўды. Пэўна і сёньня так будзе. (*Бярэ ад Маткі калаўрот*).

**Язэпка** (*праціраючы вочы*). Мама, а я пайду такі!

**Маці.** Табе, дзіцятка, пара ўжо йсьці спаць: во і вочкі твае ліпнуць.

**Франук** (*устаючы*). Калі ісьці, так ісьці! Цётка хоча, каб Каруся асталася: няхай так будзе, хоць чаму-ж бы і не пайсьці. Ідзем, Янка! Там музыка даўно рэжаць.

ЗАСЛОНА.

### ДЗЕЯ II.

**Франук. — Юрась — Янка — Разалька — Моладзь.**

*Вясковая вечарынка. Музыка. Кругом маладзеж. За сталом старшыя гуляюць у карты. Танцы. Чуваць прыпеўкі. Янка стаіць сумны, злажыўшы рукі накрыж. Глядзіць няўважна на танец.*

ЗЬЯВА 1.

**Франук** (*скончыўшы танец*). Гэй хлопцы! Годзі! Дайце польценьку!..

**Юрась.** Ды што полька! Тут трэба аб чым лепшым падумаць...

**Другі хлопец.** Што і думаць!..

**Юрась.** З носа па грошу! Давайце, хлопцы, на гарэлку... Байчэй і ахватней пойдзе гульня.

**Адна з дзяўчат (Разалька).** Ну, во йзноў гарэлка! Абойдземся! Нашто яна?

**Юрась.** Ведама ты, Разалька, курыныя грудзі! (*сьмех*). Ня хочаш гарэлкі? Ну, дык давайце на піва!

**Янка.** Хлопцы! Мне здаецца, што найлепей пагуляць цяпер гэту польку, пасьля я прачытаю нешта вельмі цікаўнае з газэты, — затым махнём нашу родную мяцеліцу, ну, і ўжо будзе пара...

**Дзяўчаты.** Праўда, праўда! Так і зробім.

**Адзін з-за стала** (*з паднятай картай*). Слухайце вы толькі бабаў!

**Адзін з хлапцоў.** Во нашоўся газэтнік! Што

